© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

№ 12 (60)
Чэрвень 2000

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна"




## Вячэра на Акрэсьціна

*"Права на волю" заканчвае публікацыю нататкаў Сяргея П'яных пра падзеі 25 сакавіка 2000 году ў Мінску з унікальнымі здымкамі, зробленымі ў знакамітым і не раз апісаным сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку на Акрэсьціна. Адзін са здымкаў — "таемная вячэра па-акрэсьцінску" — перад вамі... А нататкі чытайце на стар. 8 бюлетэню.*

# "Асьцярожней са сваімі поглядамі..."

### Беларускія сьпецслужбы актывізуюць ціск на палітычна і грамадзка актыўных грамадзянаў

У апошні час у Праваабарончы цэнтр "Вясна" усё часьцей зьвяртаюцца грамадзяне, якія сьцьвярджаюць, што беларускія сьпецслужбы аказваюць псіхалагічны ціск на іх і на іхніх блізкіх.

21 чэрвеня г.г. у ПЦ "Вясна" зьвярнуўся жыхар г.Жодзіна (Мінская вобласьць) Аляксей Лапіцкі, які паведаміў, што апошнія 7-8 дзён ён і ягоная сям'я падвяргаліся штодзённым тэлефанаваньням з мясцовага КДБ. Супрацоўнікі гэтай структуры настойвалі на неабходнасьці сустрэцца з А.Лапіцкім і нешта высьветліць, але пры гэтым не тлумачылі, якое пытаньне іх цікавіць і ў якасьці каго ён запрашаецца. Урэшце рэшт, калі тэлефонныя званкі не далі жаданага выніку, А.Лапіцкаму уручылі позву, каб ён зьявіўся ў мясцовы КДБ "дзеля дачы тлумачэньняў", але па якім пытаньні – зноў жа не названа. Сам А.Лапіцкі бачыць прычыну такой увагі да сваёй асобы з боку сьпецслужбаў у тым, што ён займаецца актыўнай грамадзка-палітычнай дзейнасцю як кіраўнік мясцовых арганізацыяў Таварыства беларускай мовы, Беларускага Народнага Фронту, Беларускага згуртаваньня моладзі "Ліцьвіны", а таксама выдае незалежныя бюлетэні "Мы – ліцьвіны" і "Школьны весьнік". А.Лапіцкі сьцьвярджае, што мясцовае КДБ таксама зьбірае інфармацыю пра ўсіх настаўнікаў, якія зьяўляюцца сябрамі ТБМ.

Моцны ціск з боку КДБ адчувае на сабе і Арыя Гатальская, якая зьвярнулася ў ПЦ "Вясна" у сёлетнім траўні. Дзяўчына вучылася на факультэце журналістыкі, працавала нейкі час у газеце "Чырвоная зьмена", зьяўлялася сябрам Згуртаваньня беларускіх студэнтаў; цяпер працуе мастаком-афармляльнікам і працягвае вучыццана журфаку БДУ завочна. У заяве, якую А.Гатальская напісала ў ПЦ "Вясна", яна распавядае пра сітуацыі, што здараюцца з ёю на працягу апошняга часу. Напрыклад, яна даведалася, што з адміністрацыяй інтэрнату, у якім яна жыве (БДПА) — з камендантам, пашпартысткай, бухгалтарам — паасобку сустракаліся людзі з КДБ, каб сабраць зьвесткі пра яе асобу. А.Гатальскую абавязалі схадзіць да адміністрацыі БДПА, дзе яе накіравалі ў пакой службы бясьпекі гэтай установы, і супрацоўнік СБ сказаў, што калі б яна не патрапілася "на аловак" да КДБ, дык яны і ня ведалі б, што яна жыве ў іх інтэрнаце. Размова, як высьветлілася пазьней, запісвалася на дыктафон. Быў складзены і пратакол "гутаркі". Пасьля падпісаньня яго А. Гатальскай на кожным аркушы сьледчы Канапацкі "не для пратаколу" заўважыў: "Асьцярожней са сваімі поглядамі..." А.Гатальская лічыць, што гэтыя падзеі ня могуць быць простымі супадзеньнямі, і што ёй рэальна пагражае страта працы, вучобы і жыльля з-за яе грамадзянскай пазіцыі, палітычных поглядаў і ўдзелу ў масавых акцыях пратэсту.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна".**

## Хроніка

***У чэрвені*** **пасьля звароту ў суд Першамайскага раёну г.Мінску завяршылася спрэчка паміж тэлежурналістам Яраславам Бяклемішавым і кіраўніцтвам Беларускага тэлебачаньня. Суд разгледзеў грамадзянскі зыск Я.Бяклемішава да кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі ў аднаўленьні на працы. Журналіст быў звольнены 9 сакавіка пасьля выхаду ў эфір тэлеперадачы "Крок-2" з удзелам вядомага беларускага кінарэжысёра Юрыя Хашчавацкага (аўтара фільма "Звычайны прэзідэнт"). Пасьля звароту ў суд кіраўніцтва кампаніі прапанавала Я.Бяклемішаву міравое пагадненьне на такіх умовах: Я.Бяклемішаў адмаўляецца ад зыску ў аднаўленьні на працы і падае заяву аб звальненьні з 14 чэрвеня, а кіраўніцтва кампаніі выплочвае яму сярэдні заробак за ўвесь час, пакуль ён не працаваў. Я. Бяклемішаў пагадзіўся, бо сам не жадае больш працаваць на БТ з этычна-маральных прычынаў.**

***На пачатку чэрвеня*** **расійскія праваабаронцы, сярод якіх В.Гефтэр, М.Аруцюнаў, А.Бонэр прынялі заяву, якая тычыцца хвалі крадзяжоў у офісах беларускіх праваабарончых арганізацыяў – БХК (сьнежань 1999 г.), "Прававая дапамога насельніцтву" (травень 2000 г.), "Цэнтр па правах чалавека" (травень 2000 г.). Паколькі ўсе крадзяжы адбываліся па адным сцэнары, гэта падштурхнула расійскіх праваабаронцаў да высновы пра невыпадковасьць такога роду супадзеньняў, тым больш, што гэтыя крадзяжы па часе і адрасатнасьці цесна зьвязаныя з актыўнымі публічнымі дзеяньнямі гэтых арганізацыяў.**

*(Працяг на стар.6)*

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021



# Пакінутыя на волю лёсу

## Беларуская дзяржава ня хоча клапаціцца пра сваіх сыноў, якія ў 1986 годзе засланілі сабой Еўропу ад ядзернае катастрофы...

***Пятру Мікалаевічу Макаранку было 25 гадоў, калі адбылася аварыя на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Ён разам з сям'ёй, жонкай і двухгадовым сынам, жыў тады ў горадзе энергетыкаў Прыпяць (прыкладна ў 3 кіламетрах ад ЧАЭС) і працаваў у пажарнай часцы №2 па ахове электрастанцыі. Горад Прыпяць знаходзіцца на мяжы Украіны і Беларусі, таму вытлумачальна, чаму прыкладна 30 працэнтаў пажарных у часцы былі беларусамі. На гэтых людзей і прыйшоўся першы ўдар па ліквідацыі наступстваў катастрофы, пакуль не прыбылі дадатковыя сілы – прадстаўнікі пажарных службаў Кіеўскай вобласьці і Масквы.***

У 7 гадзінаў раніцы пасьля выбуху малодшы сяржант унутранай службы Пятро Макаранка ўжо быў на працы — на ліквідацыі вынікаў аварыі — і фактычна неадлучна прабыў там да 30 красавіка. Не адзін раз за гэтыя дні даводзілася яму знаходзіцца метрах у 100 ад рэактару, які ўзарваўся. Пятро Мікалаевіч сьцьвярджае, што людзі, на долю якіх выпала такое выпрабаваньне, разумелі, што адбылося і чым гэта пагражае кожнаму. Яны ведалі, што змогуць пасьля гэткага апраменьваньня пражыць ня больш за месяц і зьмірыліся з тым. Тады здавалася, што гэта вельмі шмат... Многія з тых, хто тады быў побач з П.Макаранкам, памёрлі. Першыя шэсьць чалавек, якія атрымалі вялікую дозу апраменьваньня, пахаваныя ў Маскве. Сябра Пятра Мікалаевіча, з якім у тыя дні ён працаваў разам, пахаваны ў Брагінскім раёне, і яму на радзіме ўсталяваны помнік. Тыя ж, каму пашчасьціла выжыць, цяпер цяжка хворыя.

Пасьля паўгода няпэўнасьці і вандраваньняў у кастрычніку 1986 году сям'і пажарнага Пятра Макаранкі і некаторым ягоным таварышам былі выдзеленыя кватэры ў горадзе Белая Царква Кіеўскай вобласці. Але адолела настальгія па Радзіме, жыць сярод украінскіх стэпаў было псіхалагічна цяжка — і праз 3 гады Пятро Мікалаевіч з сям'ёй вярнуўся ў Беларусь: пераехаў у Гомель, а потым у Мінск, дзе працягваў працаваць па сьпецыяльнасьці. З кожным годам стан яго здароўя пагаршаўся, і ў хуткім часе камісіяй палікленікі МУС у яго былі выяўленыя прыкметы інваліднасьці. З органаў МУС маёра ўнутранай службы Пятра Мікалаевіча Макаранку, які займаў пасаду начальніка пажарнай часткі №18 Фрунзенскага раёну г.Мінску, у 1999 годзе звольнілі па стане здароўя. І вось тады пачалі адбывацца дзіўныя рэчы — калі раней ён як інвалід-чарнобылец меў ільготы і дапамогу дзяржавы, дык па цяперашніх законах гэта стала немагчымым. Бо прычынная сувязь ягоных захворваньняў з радыяцыяй стала лічыцца несапраўднай...

У 1991 годзе ў Рэспубліцы Беларусь быў прыняты Закон "Аб грамадзянах, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС", згодна з якім гэтай катэгорыі людзей прадстаўляліся пэўныя ільготы, кваліфікаванае лячэньне. Але паступова ільготы пачалі ліквідоўваць, а пасьля прыходу да ўлады А.Лукашэнкі іх практычна не засталося. І самае галоўнае – пацярпелых пазбавілі медыцынскай дапамогі, бясплатнага лячэньня. Пятро Мікалаевіч гаворыць, што ён зараз ня мае сродкаў на лячэньне. Пенсія ў яго 40 даляраў, а мінімум ле-

## Зварот
### былога пажарнага па ахове Чарнобыльскай АЭС Макаранкі Пятра Мікалаевіча да кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, да КНГ АБСЕ у Беларусі, Прадстаўніцтва ААН у Беларусі, амбасадаў ЗША, Германіі, Польшчы, Чэхіі, Францыі, Вялікабрытаніі.

...Хачу зьвярнуць увагу кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь і ўсёй сусьветнай супольнасьці на праблемы Чарнобыльскай АЭС.

Прайшло дастаткова часу з той страшнай ночы 26 красавіка 1986 году – 14 гадоў. Гэты тэрмін дазволіў глыбей асэнсаваць тое, што выявіў чарнобыльскі выбух у нашых магчымасьцях – эканамічных, тэхнічных, медыцынскіх, арганізацыйных, нарэшце – чалавечых. Што здавалася галоўным тады для ўсёй сусьветнай супольнасьці, цяпер страціла вастрыню, сышло ў цень, але яно засталося з намі назаўсёды – з тымі, хто прымаў удзел у мерапрыемствах па ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Аварыя на ЧАЭС па сваіх маштабах беспрэцэдэнтная. Выкінутыя пры выбуху радыяцыйныя элементы былі зарэгістраваныя ва ўсіх краінах паўночнага паўшар'я і павялічылі радыяцыйны фон, найперш на тэрыторыі Еўропы.

Медыцынскія дадзеныя былі і застаюцца дзяржаўнай таямніцай. У 1986 годзе гэта прывяло да дзяржаўнага злачынства: спачатку вывозілі ці эвакуіравалі жывёлаў, а потым людзей. План мясанарыхтоўкі быў больш важным.

Трагедыя Чарнобылю – гэта трагедыя сьвядомасьці. Таму і назіраецца абыякавасьць да праблемаў людзей, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС з боку прэзідэнта РБ і іншых дзяржаўных структураў. Прэзідэнт РБ А.Лукашэнка неаднаразова, прытым супрацьзаконна, уносіў зьмены і дапаўненьні ў Закон "Аб грамадзянах, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС". Некаторыя ягоныя рашэньні Канстытуцыйны суд РБ адмяніў, але гэта не бярэцца да ўвагі міністэрствамі і ведамствамі, што стварае нямала праблемаў усім. Самавольства ўлады прывяло да генацыду народу. Спрацоўвае прынцып І.Сталіна: "Няма чалавека – няма праблемаў". Я задаю пытаньне выбранаму пацярпелым народам прэзідэнту РБ А.Лукашэнку і Міністэрству аховы здароўя: "Ці ведаеце вы, чаму тысячы дзяцей, якія нарадзіліся пасьля 1986 году, маюць захворваньні шчытападобнай залозы (адэнома, рак)? Усім даўно вядома, ад чаго ўзьнікаюць гэтыя захворваньні, і што радыёактыўныя ёд, ад якога яны ўзьнікаюць, распадаецца на працягу 7 дзён".

Прэзідэнт РБ А.Лукашэнка сваімі валявымі рашэньнямі практычна пазбавіў усіх ільготаў ліквідатараў і грамадзянаў, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС. Тыя мінімальныя ільготы, якія засталіся, — існуюць толькі на паперы, напрыклад, забесьпячэньне харчаваньнем па медыцынскіх нормах ці бясплатнае медыцынскае лячэньне. Ліквідатары, многія з якіх глядзелі сьмерці ў вочы, коштам свайго жыцьця і здароўя выратавалі сотні тысячаў жыцьцяў на зямлі, захавалі здароўе і дабрабыт мільёнам людзей. 28 красавіка 1986 году група пажарных, у тым ліку і я, сустракаліся з акадэмікам Легасавым, які



Спартыўная каманда ваенізаванай пажарнай часткі №2, П.Макаранка – другі злева. Здымак 1986 году.
Фота "ПнВ"

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021



каў для разавага лячэньня каштуе 200 даляраў. Ягоны сын мае шэраг захворваньняў, і калі да 18 гадоў яму бясплатнае лячэньне гарантаванае, то далей законам яно не прадугледжанае. У жонкі таксама шэраг анкалагічных захворваньняў, у тым ліку была праведзеная аперацыя па выдаленьні шчытападобнай залозы. Ёй неабходная медыцынская дапамога, але сродкаў на набыцьцё лекаў, якія патрабуюцца пастаянна, каб не ўтвараліся злаякасныя пухліны, няма. Да таго ж, каб выжыць, трэба харчавацца па медыцынскіх нормах, але сёньня гэта не пад сілу многім беларускім сем'ям, а не тое што інвалідам — пенсіянерам-чарнобыльцам. Дзяржава кінула гэтых людзей: паратунак ад сваіх бедаў яны павінны шукаць самі.

Такая сёньня рэчаіснасьць. І калі А.Лукашэнка ў дні гадавінаў Чарнобыльскай катастрофы падарожнічае па забруджаных радыяцыяй тэрыторыях Беларусі, дэманструючы спачуваньне, — гэта не сапраўдны ўдзел у лёсах людзей, што некалі ахвяравалі сваімі жыцьцямі і здароўем дзеля выратаваньня будучыні, а крывадушная дэмагогія. Бо цяпер, праз 14 гадоў пасьля трагедыі, гэтыя людзі вымушаныя прасіць дапамогі дзеля таго, каб выжыць. І страціўшы надзею атрымаць дапамогу ад уласнай дзяржавы, яны зьвяртаюцца да ўсёй сусьветнай супольнасьці. Ніжэй мы друкуем крык адчаю — ліст-зварот Пятра Макаранкі адрасаваны ў КНГ АБСЕ у Беларусі, у Прадстаўніцтва ААН у Беларусі, у амбасады ЗША, Германіі, Польшчы, Чэхіі, Францыі, Вялікабрытаніі...

тады ўзначаліў урадавую камісію СССР. Акадэмік Легасаў нам сказаў, што пажарныя выратавалі Еўропу. А сёньня ліквідатары і пацярпелыя спрабуюць дабіцца нейкіх правоў і ільготаў. Гэтым яны дабіваюцца "права на жыцьцё". І няўжо гэтыя бязьвінна пацярпелыя людзі не заслужылі міласэрнасьці і дапамогі?

Раней 20 адсоткаў рэспубліканскага бюджэту ішло на ліквідацыю наступстваў аварыі на ЧАЭС, а сёньня – прыкладна 5. Куды ж тады ідуць 15 адсоткаў пры ўзрастаючай вытворчасьці і валавым прадукце, але падаючым узроўні жыцьця? Ідуць, відаць, на ўмацаваньне ваеннай магутнасьці і рэжыму альбо будаўніцтва і ўтрыманьне лядовых палацаў, якія будуюцца на працягу году, у той час як бальніцу ў г.Гомелі для лячэньня і рэабілітацыі пацярпелых будуюць больш за 10 гадоў, наладжваючы суботнікі – і ўсё не хапае сродкаў.

Чарнобыль – вельмі грозная і яшчэ нязьведаная да канца зьява, каб можна было лёгка пераступіць цераз яго, аддаць забыцьцю, як хочацца некаторым. Ён непадуладны нікчэмнай і часовай уладзе асобных службовых асобаў. Няма ніякага сумневу, што яшчэ будуць названыя імёны тых, хто прымаў рашэньні аб заблакаваньні чарнобыльскіх праграмаў, хто імкнуўся схаваць наступствы Чарнобылю, хто нясе адказнасьць за людзей, якія жывуць на забруджанай зямлі, па чыёй віне захворваюць дзеці і заўчасна сыходзяць з жыцьця людзі. Калі не людзкім судом, дык судом Божым, судом гісторыі яны будуць сурова пакараныя.

Я хачу прывесьці некалькі прыкладаў па сваёй сям'і, якая была эвакуіраваная з г. Прыпяць.

*(Заканчэньне на стар.6)*

# Прэцэдэнт

**Аляксандру Шчурко спатрэбілася сем з паловай месяцаў, каб дамагчыся свайго апраўданьня і даказаць несправядлівасьць пакараньня ў адносінах да яго па падзеях 17 кастрычніка 1999 году**



**Аляксандр ШЧУРКО і адвакат Вера Страмкоўская ўзале суда.**

17 кастрычніка 1999 году, падчас сумнавядомага "вялікага хапуну" пасьля "Маршу Свабоды-1", Аляксандр Шчурко быў затрыманы ў парку імя М.Горкага і ў ліку іншых дастаўлены ў Партызанскі РАУС г.Мінску. Там на яго быў складзены пратакол аб адміністратыўным затрыманьні за быццам бы парушэньне арт. 167-1 ч. 1 КаАП РБ (актыўны ўдзел у несанкцыянаваным шэсьці). Суд, які адбыўся на наступны дзень, вынес пакараньне А.Шчурко – 5 сутак адміністратыўнага арышту, нягледзячы на тое, што абвінавачваемы сваёй віны не прызнаваў і сьцьвярджаў, што быў затрыманы выпадкова, бо ўдзелу ў "Маршы Свабоды" ня браў.

Адбыўшы несправядлівае пакараньне, Аляксандр Шчурко распачаў змаганьне за тое, каб даказаць сваю невінаватасьць і дамагчыся пакараньня тых службовых асобаў, якія парушылі закон, затрымліваючы выпадковых людзей. Спачатку ён накіраваў скаргу старшыні Мінскага гарадзкога суда на прысуд раённага суда, але паколькі гэтай інстанцыяй рашэньне было пакінутае бяз зьменаў, наступны крок быў – скарга на імя старшыні Вярхоўнага суда РБ. Адтуль прыйшло рашэньне – адмяніць пастанову судзьдзі Партызанскага суда г.Мінску і накіраваць справу на новы разгляд іншаму судзьдзі.

Новы разгляд справы А.Шчурко пачаўся 29 сакавіка 2000 году ў судзе Партызанскага раёну г.Мінску судзьдзёй А.Дзямінскай. Судзьдзя адразу ж убачыла грубыя парушэньні заканадаўства. Як засьведчыў на судзе ўчастковы інсьпектар Партызанскага РАУС г.Мінску І.В.Палтаўцаў, які складаў пратакол аб адміністратыўным затрыманьні, сам ён А. Шчурко не затрымліваў і ня можа сказаць, ці ўдзельнічаў абвінавачваемы ў несанкцыянаваным шэсьці, бо сьведкаў затрыманьня ён ня бачыў і не апытваў. І.В.Палтаўцаў таксама адзначыў, што подпіс пад пратаколам не ягоны. Што тычыцца сьведкаў, прозьвішчы якіх былі ўказаныя ў пратаколе і рапарце аб затрыманьні, то яны сьцьвярджалі на судзе, што не затрымлівалі А.Шчурко, а толькі даста́ўлялі ў Партызанскі РАУС, пры гэтым зноў жа подпісы ў пратаколе ім не належаць, а рапарты яны ўвогуле не складалі.

Адзначаючы гэтыя грубыя парушэньні, судзьдзя А.І.Дзямінская накіравала матэрыялы справы на службовае расьсьледваньне ў пракуратуру Партызанскага раёну г.Мінску. У выніку яго было вынесенае прадстаўленьне, дзе сказана: "Выяўленыя ў ходзе праведзенай пракуратурай раёну праверкі парушэньні ўказваюць на некампетэнтнасьць і нядбайныя адносіны да выкананьня службовых абавязкаў супрацоўнікаў Партызанскага РАУС, а таксама на нядзольнасьць належным чынам арганізаваць і праводзіць шырокія па аб'ёме і грамадзка-палітычна значымыя разьбіральніцтвы". Пракуратура таксама прапанавала вырашыць пытаньне аб прыцягненьні да дысцыплінарнай адказнасьці вінаватых, але адмовіла ва ўзбуджэньні крымінальнай справы супраць іх.

Натуральна, што судзьдзя, маючы матэрыялы службовага расьсьледваньня, вынесла пастанову пра тое, што "дадзеныя матэрыялы (пратакол і рапарты) ня могуць лічыцца доказамі вінаватасьці А.Шчурко", а паколькі доказаў няма – "адміністратыўную справу ў адносінах да А. Шчурко неабходна спыніць за адсутнасьцю падзеі і складу адміністратыўнага правапарушэньня".

Гэтае рашэньне было вынесенае толькі 6 чэрвеня 2000 году – гэта значыць, што А.Шчурко спатрэбілася сем з паловай месяцаў, каб даказаць сваю невінаватасьць. У яго на гэта хапіла сілаў і цярпеньня, але як шмат засталося яшчэ нявінна пакараных...

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна".**

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021



# "...Два кавалкі граніту падлягаюць зьнішчэньню"

## Суд ізаляваў Міколу Статкевіча і Валерыя Шчукіна не ад грамадства, а ад выбаршчыкаў...

Звычайна ў дні абвяшчэньня палітычных прысудаў рэзка абвастраец-ца праблема наяўнасьці месцаў у судовай зале. Міліцыянты не пускаюць у будынак суда "лішніх", на іх думку, людзей, бо ў зале "не хапае крэслаў". Так было і гэтым разам. Дабіцца ж незвычайнай "вольніцы" для журналістаў і грамадзянаў, якія жадалі падтрымаць падсудных Міколу Статкевіча і Валерыя Шчукіна сваёй прысутнасьцю, удалося толькі дзякуючы цьвёрдасьці капітана другога рангу Шчукіна. Валеры Аляксеевіч абвясьціў, што зойдзе ў залу самым апошнім, толькі пасьля таго, як туды прапусьцяць журналістаў. І колькі яго ні прасілі заняць сваё месца, слова трымаў. Гэта была настолькі ультыматыўная заява падсуднага, што міліцэйскі падпалкоўнік вырашыў прапусьціць усіх жадаючых.

Паслухаць вердыкт суда апазіцыйным дзеячам прыехалі шматлікія замежныя дыпламаты. Карціну дапаўняла прысутнасьць у зале прадстаўнікоў еўрапейскіх парламенцкіх структураў — гэтак званай "тройкі". Невядома чаму ўлады дацягнулі працэс Шчукіна-Статкевіча ажно да візіту спадара Севярына з калегамі. Магчыма, Лукашэнка хацеў прыпаднесьці вынік суда над сваімі апанентамі як узор мяккасьці беларускага правасудзьдзя.

Адметнае і тое, што дэпутат-журналіст і лідэр адной з буйнейшых апазіцыйных партыяў атрымалі тэрміны зьняволеньня з адтэрміноўкай выкананьня прысуду. М.Статкевіч цяпер умоўна асуджаны на два гады (і столькі ж часу павінен "не зьмяняць месца жыхарства, перыядычна з'яўляцца ў органы міліцыі дзеля нагляду" і да т.п.). Шчукіну суд "адшкадаваў" тэрмін удвая меншы – год, з адтэрміноўкай на год. Справа ў тым, што судзьдзя Ігар Крот мусіў у ходзе разьбіральніцтва зьняць з падсуднага В.Шчукіна адзін пункт абвінавачаньня. Да таго ж, М.Статкевічу інкрымінаваліся дзеяньні, зьвязаныя з двума акцыямі апазіцыі – 27 ліпеня і 17 кастрычніка мінулага году, у той час як ягонаму "падзельніку" – толькі падзеі восеньскага "Маршу Свабоды-1". Пры жаданьні ўладам можна было паспрабаваць "прышыць" Дзень Незалежнасьці і Валерыю Аляксеевічу, які прысутнічае на ўсіх апазіцыйных акцыях, але летась 27 ліпеня В.Шчукін якраз быў пад арыштам.

Першапачаткова супраць абодвух палітыкаў быў вылучаны артыкул 186-3 Крымінальнага кодэксу – "арганізацыя і актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, якія груба парушаюць грамадзкі парадак". Гаворка ішла пра два несанкцыянаваныя шэсьці. У ходзе шэсьця ў гонар Дня Незалежнасьці Беларусі мела месца сутычка з міліцыяй падчас спро-бы дэманстрантаў правраваца праз шыхт "ахоўнікаў парадку". Сёлета ў студзені менавіта за ўдзел у гэтай ак-цыі ўжо быў умоўна асуджаны малады апазіцыянер з Мінску Яўген Асінскі, але М.Статкевіча тады ўлады часова пакінулі ў спакоі – вылучылі ягоную справу ў асобную ад справы Я.Асін-скага. А пасьля дзёрзкай дэманст-рацыі непадпарадкаваньня трыцца-цю тысячамі беларусаў 17 кастрычніка і масавай бойкі паміж міліцыяй і дэ-манстрантамі стала



У чаканьні прысуду.

зразумела: М.Стат-кевіча дакладна будуць судзіць. Праў-да, так і не вытлумачаным засталося пытаньне, чаму з дзесяткаў затрыма-ных у той дзень апазіцыянераў разам са Статкевічам улады вырашылі су-дзіць менавіта В.Шчукіна. Адзіным крытэрыем гэткага адбору бачыцца ягоная актыўнасьць і папулярнасьць сярод апазіцыйна настроеных грамадзянаў.

Дарэчы, за ўдзел у шэсьцях, якія фігуравалі ў матэрыялах крымінальнай справы, і Шчукін, і Статкевіч раней пасьпелі адбыць адміністратыўныя пакараньні. Тым ня менш іх пакаралі ў другі раз, пры гэтым гарадзкі суд адмяніў пастановы раённых судоў аб адбыцьці ўжо адбытых адміністрацыйных арыштаў (!). Тым болей гэта неверагодна таму, што ні раней, ні цяпер падсудныя сваёй віны не прызналі.

Судовы працэс пачаўся напярэдадні "Чарнобыльскага Шляху" – 24 красавіка. Спачатку ўзьнікла праблема з пракурорам, які раптам захварэў, і, як гэта часта здараецца на падобных судах, з мовай судавытворчасьці. Мікола Статкевіч хадайнічаў аб вядзеньні працэсу на беларускай мове. Пракурор Валерый Пак не падтрымаў хадайніцтва. Судзьдзя дазволіў лідэру сацыял-дэмакратаў пры неабходнасьці карыстацца паслугамі перакладчыка. Калі судзьдзя пачаў чытаць абвінавачае заключэньне, падсудны М.Статкевіч перапыніў яго заўвагай, што ён "не разумее замежных моваў, калі хвалюецца".

Разьбіральніцтва вакол падзеяў 27 ліпеня мінулага году асаблівых цяжкасьцяў у суда не выклікала. На прадстаўленых міліцыяй відэакасетах, зьнятымі ў той дзень "хлопцамі ў цывільным", было добра бачна, як М.Статкевіч ідзе ў пярэдняй частцы калоны з мегафонам. Сам сп.Мікола не адмаўляў, што павёў людзей з дазволенага ўладамі месца – пл.Я.Коласа – па зусім іншым маршруце. Спрэчкі ўзьніклі толькі пра тое, ці Статкевіч прапанаваў людзям сысьці з плошчы сам. Міліцыянты-сьведкі сьцьвярджалі, што гэта так, падсудны ж заявіў, што спачатку спытаў у прысутных, ці згодныя яны адзначыць вялікае сьвята незалежнасьці падпарадкаваньнем забароне шэсьця. Людзі не пагадзіліся на гэта. Пазьней у прысудзе з гэтай нагоды ўзьнікне фраза пра адметныя арганізатарскія здольнасьці Мікалая Статкевіча. Ацанілі, так бы мовіць...

М.Статкевіч нагадаў, што акцыя ў гонар Дня Незалежнасьці адбывалася праз 6 дзён пасьля сканчэньня канстытуцыйнага тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі. "Калі сёньня Лукашэнка раптам прыме закон пра забарону хаджэньня на вуліцы ў шапках (за парушэньне – расстрэл), дык вы і гэта будзеце выконваць?" – пацікавіўся Статкевіч у судзьдзі і пракурора.

Разгляд эпізоду, што датычыцца 17 кастрычніка, як і трэба было чакаць, выклікаў шмат эмоцыяў і вялікую цікавасьць. Было дапытана каля ста сьведкаў і пацярпелых (адных байцоў сьпецназу з базы МУС ва Уруччы – каля 60

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021



чалавек). Салдаты тэрміновай службы часта блыталіся ў сваіх паказаньнях. Некаторыя спрабавалі, што называецца, трымаць нейтралітэт. Скажам, на пытаньне, ці сапраўды ад дэманстранты абражалі сьпецназаўцаў, адзін сьведка сказаў: "там было вельмі шумна, і я нічога ня чуў". Салдаты пачалі адмаўляцца ад сваіх заяваў на кампенсацыю маральных стратаў, якія пісалі ў час сьледзтва. У перапынку я пацікавілася ў сьпецназаўцаў, што прымусіла іх пайсьці на гэта, калі яны сапраўды лічаць сябе пацярпелымі. Пераглянуўшыся, яны адказалі: "Праз некалькі месяцаў тэрмін службы сканчаецца – што мы, у цывільным жыцьці грошай сабе не заробім?" А на дэманстрантаў салдаты, па іхніх словах, "крыўдаў ня маюць".

Тым ня менш некаторыя шарагоўцы ў сваіх намаганьнях у зале суда вельмі шчыравалі. Гэтак некалькі чалавек (і з унутраных войскаў, і з міліцыі) заявілі, што пры набліжэньні да іх калоны дэманстрантаў яны заўважылі "многа п'яных" і нават... пачулі пах сьпіртнога. "Такім чынам, мяне абвінавачваюць у тым ліку і ў арганізацыі масавай п'янкі," – падвёў рысу падсудны Валеры Шчукін. Ён хадайнічаў пра запыт дадзеных аб колькасьці нецьвярозых затрыманых пасьля "Маршу Свабоды". Пракурор Галіна Ганчарова, аднак, запярэчыла: "Знаходжаньне ў п'яным выглядзе да падсудных ня мае ніякага дачыненьня – у абвінавачаньні пра п'яных няма ані слова". Абвінаваўца прывяла афіцыйныя лічбы затрыманых 17 кастрычніка: 94 чалавекі былі дастаўленыя ў аддзяленьні міліцыі, на 90 з іх складзеныя пратаколы, 55 чалавек прайшлі праз суды па адміністратыўных справах.

Былі адхіленыя і хадайніцтвы В.Шчукіна і яго грамадзкага абаронцы Уладзіміра Нісьцюка пра далучэньне да справы Закону аб міліцыі і агалашэньне зьместу загадаў, згодна з якімі сьпецназ і міліцыя выходзілі на вуліцы сталіцы 17 кастрычніка. Пракурор намякнула, што такія дакументы могуць прадстаўляць дзяржаўную ці ваенную таямніцу. Судзьдзя сказаў, што яны ўсё роўна ня маюць дачыненьня да справы (чытай: да масавых акцыяў апазіцыі). Гэта нелагічна, але ў беларускай сітуацыі не зьдзіўляе.

Як і можна было прадбачыць, ніхто са сьведкаў-міліцыянтаў не сказаў праўды суду пра момант пачатку бойкі 17 кастрычніка. Як вядома, усё пачалося з нападу сьпецназа і АМАП на дэманстрантаў, якія ў гэты момант павярнуліся для таго каб разысьціся. На думку некаторых салдатаў, яны зрабілі добрую справу: "Калі б дэманстрантаў мы не разагналі, то іх бы проста пазабівалі тут. Гэта я падумаў, калі паглядзеў фільм па БТ", — дзяліцца развагамі адзін 20-гадовы сьпецназавец. Многім ягоным саслужыўцам, дарэчы, падзеі паслужылі ўрокам – раскрылі вочы на сапраўднае стаўленьне да іх беларускіх дзяцей і жанчын, чый сон і спакой яны гэтак старанна абараняюць. Шчукіна і Статкевіча частка сьведкаў у форме ня бачыла на месцы бойкі таму, што... была ў шлемах, якія "мелі мутнае шкло ў забрале". Яшчэ цікавы момант: адзін сьведка лічыць, што кінутыя дэманстрантамі камяні патрапілі ў асноўным па нагах хлопцаў у форме з-за... загаду іх камандзіра бегчы наперад. Каб не беглі – камяні б так і не даляцелі.

Праўда, суду такія дробязі цікавыя не былі, галоўная ж мэта – асудзіць вядомых апазіцыянераў, а не, крый Божа, іх апраўдаць. Сьведкам з ліку ўдзельнікаў адной і другой акцыяў суд нават не надаў веры, бо, як сказана ў прысудзе, усе яны былі затрыманыя і могуць мець крыўду на супрацоўнікаў міліцыі. Між іншым, гэтыя людзі расказалі пра свае затрыманьні і 27 ліпеня, і 17 кастрычніка. У нармальнай сітуацыі па такіх фактах справы вылучылі б у асобную вытворчасьць з мэтай правядзеньня сярод міліцыі "разбору палётаў"... Цалкам верагодна, што разьбіральніцтва і грунтоўнае дасьледаваньне ўсіх абставінаў пацьвердзілі б версію аб бойцы як правакацыі сілавых структураў. Зрэшты, пра гэта беларуская прэса ўжо даўно і шмат пісала (у тым ліку і "Права на волю", гл. сенсацыйнае прызнаньне старэйшага лейтэнта міліцыі Алега Батурына ў №3 за гэты год — *рэд.*) і мы зараз не станем паўтарацца.

У ходзе разьбіральніцтва па справе Шчукіна і Статкевіча ўдзельнікі працэсу праглядзелі матэрыял на сямі відэакасетах. Аднойчы замест кадраў з шэсьця апазіцыі на экране зьявіўся парнаграфічны фільм. Відаць, у экспертаў гарадзкой міліцыі не хапае чыстых касетаў, і выхаванцы сумнавядомага аператара "браневіка" Дубавіцкага мусілі прынесьці ў ахвяру сваю ўлюбёную кінакарціну. Гэта мы зможам высьветліць праз пэўную колькасьць гадоў, калі будуць вывучацца архівы і гісторыя лукашэнкаўскага рэжыму. Згодна з рашэньнем суда, "рэчавыя доказы (сем відэакасетаў) належыць захоўваць пры крымінальнай справе". А вось што сказана пра іншыя рэчавыя доказы: "Два кавалкі граніту падлягаюць зьнішчэньню". Гэтую цытату са справы пра граніт, ды яшчэ менавіта пра два кавалкі, мы згадалі невыпадкова. Бо прагучала яна сімвалічна. Валеры Шчукін і Мікалай Статкевіч трымаліся на судзе, як дзьве гранітныя скалы пад націскам буры. Менавіта з-за сваёй цьвёрдасьці, лічаць улады, яны і "падлягаюць зьнішчэньню" як палітыкі, здольныя скласьці канкурэнцыю лукашэнкаўскім вылучэнцам на выбарах у парламент ды і самому Лукашэнку на прэзідэнцкіх выбарах, якія павінны адбыцца праз год.

Суд скінуў В.Шчукіну адзін пункт абвінавачаньня: пра арганізацыю несанкцыянаванага шэсьця 17 кастрычніка. Да таго ж суд адмовіў у задавальненьні грамадзянскіх зыскаў па кампенсацыі маральных і матэрыяльных стратаў. Пракурор Мінску Купрыянаў, "Мінскзеленбуд" і сталічнае ГУУС, праўда, маюць шанец спагнаць з падсудных грошы – іх зыскі вылучаныя ў асобнае справаводзтва. Затое "Мінгарэлектратранс" не атрымае грошы за пашкоджанае шкло трамваю, а шэраг пацярпелых міліцыянтаў – за лячэньне ў шпіталі. Не было даказана, што шкло і міліцыю пабілі непасрэдна Шчукін і Статкевіч. Больш за тое: "не здабыта доказаў, што прычыненьне гэтых пашкоджаньняў увогуле ахаплівалася іх задумай" (цытата з прысуду). Паразу пацярпела і знакамітая спроба пракурора гораду "прышыць" Шчукіну скрадзеныя невядома кім каскі, шчыты і дубінкі, а таксама парваную міліцыянтамі "куртку зімовую камуфляжную". Судзьдзя таксама мусіў быў прызнаць адсутнасьць доказаў, што падсудны мае дачыненьне да гэтых стратаў.



Крот зрабіў сваю справу...

Аднак усё гэта не перашкодзіла вынесьці рашэньне аб спагнаньні з апазіцыянераў стратаў за прастой у дні шэсьцяў тралейбусаў і трамваяў. Дзень Незалежнасьці, такім чынам, абыдзецца Міколе Статкевічу ў 8055 рублёў, а "Марш Свабоды" для абодвух асуджаных разам – у 83250 рублёў. З улікам індэксу спажывецкіх цэнаў, дадаецца ў прысудзе. Разам з судовымі пошлінамі арганізацыяў, што падавалі грамадзянскія зыскі, сума спаганяемых з двух асуджаных апазіцыянераў грошай сягае пад сто тысячаў беларускіх рублёў (прыблізна сто даляраў ЗША).

Прысутны на зачытваньні прысуду сьпецдакладчык АБСЕ па Беларусі Адрыян Севярын выказаўся ў гутарцы з журналістамі коратка: "Я ўпершыню бачу палітычных дзеячаў, якія б настолькі пацярпелі ад звычайнай вулічнай дэманстрацыі". А.Севярын і іншыя прадстаўнікі еўрапейскай "тройкі" заявілі, што будуць ставіць пытаньне аб пераглядзе прысуду па гэтай палітычнай справе пры абмеркаваньні з беларускімі ўладамі перспектываў перамоваў паміж Лукашэнкам ды апазіцыяй, якія, у сваю чаргу, прызваныя стварыць спрыяльную сітуацыю для правядзеньня ў канцы бягучага году выбараў у парламент.

Такім чынам, улады планамерна і паступова расчышчаюць палітычнае поле перад блізкімі парламенцкімі, а потым і прэзідэнцкімі выбарамі. Калі ўлічыць ня толькі крымінальныя прысуды буйнейшым апазіцыйным дзеячам, вынесеныя за апошнія гады (а паводле лукашэнкаўскіх законаў асобы, якія маюць судзімасьці ня могуць прымаць удзел у выбарах, г. зн. вылучаць свае кандыдатуры), але і зьнікненьні ды загадкавыя сьмерці палітыкаў, а таксама вымушаную эміграцыю, дык атрымаецца ўражвальная карціна: абсалютная большасьць апанентаў Лукашэнкі ўжо такімі не зьяўляюцца...

**Тацяна СЬНІТКО.**

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021



# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*14 чэрвеня* (напярэдадні візіту ў Беларусь "тройкі" еўрапейскіх парламенцкіх структураў) беларускія дзяржаўныя СМІ перадалі словы памочніка А.Лукашэнкі Сяргея Посахава, які абвінавацiў кіраўніка КНГ АБСЕ Ханса-Георга Віка ў адмове ўключыць у праграму візіту сустрэчу "тройкі" з усімі васемнаццацю зарэгістраванымі ў Беларусі палітычнымі партыямі і ўдзел "тройкі" ў сесіі грамадзка-палітычнага дыялогу. Пасьля гэтага Кансультатыўна-назіральная група АБСЕ выступіла з заявай, у якой гаворыцца: "Высокапастаўлены прадстаўнік прэзідэнцкай адміністрацыі ініцыяваў дыпламатычны інцыдэнт. У міжнароднай практыцы не прынята ў пагрозьлівай манеры аказваць ціск на дыпламатычнага суразмоўцу і арганізатара сустрэчаў у сувязі з падрабязнасцю праграмы візіту высокапастаўленай міжнароднай дэлегацыі. Згодна з міжнароднай практыкай, якая даўно склалася, праграмы візіту міжнародных гасьцей распрацоўваюцца адпаведнай дыпламатычнай міжнароднай місіяй і Міністэрствам замежных справаў. Папярэдняя праграма была перададзеная ў МЗС за некалькі дзён да таго і не абмяркоўвалася належным чынам". КНГ АБСЕ заявіла, што пытаньне пра ўдзел "тройкі" у паседжаньні грамадзка-палітычнага дыялогу не ўздымалася падчас сустрэчаў паміж сп.Вікам і сп.Посахавым.

*18 чэрвеня* навучэнцу прафесійна-тэхнічнай вучэльні Аляксандру Новіку споўнілася 18 гадоў і адразу яго выклікалі ў пракуратуру г.Мінску – узбудзілі крымінальную справу па арт. 186 КК РБ (арганізацыя альбо актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, якія парушаюць грамадзкі парадак, што караецца пазбаўленьнем волі на тэрмін да трох гадоў, папраўчымі работамі да двух гадоў альбо штрафам). Аляксандр Новік зьвярнуўся ў Праваабарончы Цэнтр "Вясна" і расказаў наступнае: "Я быў затрыманы 17 кастрычніка 1999 году на "Маршы Свабоды". Пасьля гэтага, 21 кастрычніка, мяне выклікалі на камісію па справах непаўнагадовых. Мне далі штраф у памеры 1450 рублёў. А цяпер, калі мне споўнілася 18 гадоў, супраць мяне ўзбуджаюць крымінальную справу. Пры гэтым пастанову камісіі па справах непаўнагадовых адмянілі і пастанавілі вярнуць мне штраф у памеры 1450 дэнамінаваных рублёў". 21 чэрвеня ў пракуратуры г.Мінска з А.Новіка ўзялі падпіску аб нявыезьдзе. Сьледчы сьцьвярджае, што А.Новік ёсьць на відэастужках, адзьнятых 17 кастрычніка.

*З 19 па 22 чэрвеня* ў Мінску знаходзілася з візітам дэлегацыя парламенцкай тройкі АБСЕ. Як паведаміў старшыня падкамітэту па Беларусі ў Палітычнай камісіі Еўрапарламенту Ян Марыюс Вірсма, мэтай візіту зьяўлялася выяўленьне значнасьці намаганьняў па стварэньні "неабходных умоваў дзеля правядзеньня свабодных і дэмакратычных парламенцкіх выбараў у Беларусі ўвосень гэтага году як асновы далейшага дэмакратычнага рэфармаваньня краіны". Ян Марыюс Вірсма адзначыў, што працэс узаемаадносінаў паміж урадам і апазіцыяй, а таксама ініцыяваны А.Лукашэнкам грамадзка-палітычны дыялог пакуль што не апраўдваюць даверу парламенцкай тройкі.

*19 чэрвеня* суд Кастрычніцкага раёну адмяніў штраф Зьміцеру Марчуку, затрыманаму падчас вынясеньня прысуду Міхаілу Чыгіру. Зьміцер Марчук быў затрыманы 19 траўня ў 10.30 каля будынку Мінскага гарадзкога суда. Як адзначана ў пастанове суда: "Падчас слуханьня прысуду ў адносінах гр-на Чыгіра М.М. Грыб і Марчук у складзе арганізаванай групы гучна крычалі, скандзіравалі лозунг "Свабода Чыгіру", тым самым перашкаджалі нармальнай дзейнасьці Мінскага гарадзкога і Фрунзенскага раённага судоў. Грамадзяне Грыб і Марчук былі затрыманыя і дастаўленыя ў Гарадзкі аддзел міліцыі Фрунзенскага раёну". Участковы інсьпектар міліцыі Алексяёнак, не азнаёміўшыся з рапартам інсьпектара міліцыі Гадуна, які ажыцьцяўляў затрыманьне, напісаў, што "Марчук лаяўся матам". Пасьля гэтага падпалкоўнік міліцыі Гардаш вынес па арт. 156 КаАП РБ (дробнае хуліганства) пастанову аб штрафе ў памеры 5.200 рублёў (дзьве мінімальныя зарплаты). У ходзе судовага разьбіральніцтва высьветлілася, што Марчук і Грыб не лаяліся матам, а крычалі "Свабода Чыгіру" (так было напісана ў рапарце інспектара Гадуна, які затрымліваў). У выніку суд Кастрычніцкага раёну вынес пастанову, у якой адмяніў адміністратыўнае пакараньне.

*20 чэрвеня* скончыўся год адтэрміноўкі па крымінальнай справе намесьніка старшыні Маладога Фронту Яўгена Скочкі за арганізацыю 14 лютага 1999 г. несанкцыянаванага маладзёжнага шэсьця "Беларусь у Еўропу", якое скончылася шматлікімі арыштамі ўдзельнікаў. Па заканчэньні выпрабавальнага тэрміну справу Яўгена Скочкі перадалі ў суд Навабеліцкага раёну г.Гомелю.

*26 чэрвеня* на плошчы Бангалор адбыўся пікет Беларускай асацыяцыі журналістаў у падтрымку недзяржаўнай прэсы.

# Пакінутыя на волю лёсу

(Пачатак на стар.2-3)

Я, Макаранка Пятро Мікалаевіч, з 7 гадзінаў раніцы 26 красавіка 1986 году прымаў удзел у ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС у якасьці пажарнага. Мы тады разумелі, у якіх умовах мы знаходзімся і што жыць нам засталося каля месяца. З гэтым мы нават зьмірыліся, але здарылася так, што з Божай дапамогай многія выжылі. З траўня 1991 году, згодна з Законам РБ у сувязі з тым, што я працаваў у 10-кіламетровай зоне і часткова страціў працаздольнасьць, мне было выдадзенае пасьведчаньне ліквідатара: серыя А №283313, артыкул 18 УУС Гомельскага аблвыканкаму. Калі я зьвярнуўся ў паліклініку МУС РБ у 1993 годзе, кіраўніцтвам паліклінікі мне было заяўлена, што я незаконна карыстаюся ільготамі. Тады я зьвярнуўся ў Дзяржкамчарнобыль з просьбай растлумачыць мне гэтае пытаньне. Атрымаў пісьмовы адказ, што я маю права на ільготы па артыкуле 18, і што закон зваротнай сілы ня мае.

Далей мяне выклікалі ў аддзел кадраў МУС РБ і абвінавацілі ў падробцы пасьведчаньня, пра што сьведчыць ліст УУС Гомельскага аблвыканкаму, дзе было сказана, што такое пасьведчаньне не выдавалася. Я своечасова зарыентаваўся (інакш наступствы былі б сумнымі) і зьвярнуўся ў навукова-дасьледчы інстытут крыміналогіі РБ, каб дасьледаваць маё пасьведчаньне. Мне быў дадзены станоўчы адказ. Кіраўніцтвам АК МУС РБ неаднаразова супрацьзаконна адбіралася маё пасьведчаньне, пра што сьведчаць пацьвярджальныя дакументы. 16 красавіка 1996 году (Пратакол №6) Камісіяй МУС РБ у мяне ўсё ж канфіскавалі пасьведчаньне з артыкулам 18 і ўзамен выдалі пасьведчаньне з артыкулам 19. На глебе вышэйназваных праблемаў у мяне ўзьніклі праблемы на службе і ў жыцьці. Усе гэтыя гады, пачынаючы з 1993 па 1996, каштавалі мне вельмі шмат.

Згодна з заключэньнем ад 16.10.1991 г. Рэспубліканскага міжведамаснага экспертнага савету, мае захворваньні былі зьвязаныя з працай па ліквідацыі аварыі на ЧАЭС, але пасьля сыходу на пенсію ў 1999 годзе па стане здароўя, мае захворваньні перасталі зьвязваць з гэтым, спасылаючыся на розныя інструкцыі. На рашэньні ВКК №273 паліклінікі МУС РБ мяне накіравалі на МРЭК РБ, бо ў мяне былі выяўленыя прыкметы інваліднасьці, але мне далі адмоўны адказ. Вось і атрымліваецца, што пры сёньняшняй уладзе і дзеючых законах РБ чалавеку, які страціў здароўе пры выкананьні службовых абавязкаў па ліквідацыі аварыі на ЧАЭС, ня дадзена ніякай кампенсацыі за страчанае здароўе і скарочанае жыцьцё.

Мая жонка, Макаранка Н.П., якая была эвакуіраваная з 5-кіламетровай зоны ЧАЭС, мае шэраг анкалагічных захворваньняў, перанесла аперацыю па выдаленьні шчытападобнай залозы. Яе захворваньні звязаныя Міжведамасным экспертным саветам з аварыяй на ЧАЭС, але яна ня мае па дзеючым заканадаўстве права на бясплатнае медыцынскае лячэньне (хаця дзеці да 18 гадоў з такімі захворваньнямі прыраўноўваюцца да інвалідаў ЧАЭС).

Можна і далей пералічваць прыклады, але я думаю, што і гэтых дастаткова.

Японія, ЗША, еўрапейскія краіны і грамадзкія арганізацыі аказваюць фінансавую і гуманітарную дапамогу Рэспубліцы Беларусь дзеля ліквідацыі наступстваў аварыі, а куды ідзе гэтая дапамога – невядома.

Я думаю, што маю маральнае права, каб выжыць мне і маёй сям'і, папрасіць дапамогі ў кіраўнікоў названых мной краінаў, а таксама зьвяртаюся да калегаў-пажарных гэтых дзяржаваў. Акажыце, калі ласка, канкрэтную дапамогу канкрэтнай сям'і, а Бог вам адплоціць.

/П.Н. Макаренко/

22 июня 2000 г.

**Па матэрыялах ПЦ "Вясна" падрыхтавала Тацяна РЭВЯКА.**

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

# Сьмерць на вышцы

**7 верасьня 1999 году ў Івацэвічах пры загадкавых абставінах запнуў радавы ўнутраных войскаў Сяргей Толкач.**

Сяргей Толкач быў прызваны на службу ва ўнутраныя войскі 12 ліпеня 1999 году. Вучэбныя зборы ён праходзіў у г.Баранавічы і пасьля прыняцьця прысягі быў накіраваны ў 3-ці батальён вайсковай часткі 7404 г.Івацэвічы Брэсцкай вобласьці па ахове калоніі строгага рэжыму ІТК-5. У Івацэвічы Сяргей Толкач прыбыў 19 жнiўня, а ў пачатку верасьня ён загінуў.

7 верасьня 1999 году ў кватэры бацькоў Сяргея Толкача ў Баранавічах прагучаў тэлефонны званок. Тэлефанавалі з вайсковай часткі. Паведамілі, што з сынам здарылася няшчасьце. Маці, Галіна Міхайлаўна, спытала: "Яго што пабілі?" "Так, пабілі", — адказалі ёй і павесілі трубку. Увечары прыехаў прадстаўнік камандаваньня часткі афіцэр Ждан і сказаў, што Сяргей узяў ствол аўтамату ў рот і зрабіў тры стрэлы...

Сяргей быў жывы яшчэ тыдзень — памёр не прыходзячы ў прытомнасьць у бальніцы 14 верасьня. Па словах бацькоў загінуўшага, спачатку камандзіры казалі, што гэта здарылася падчас зьмены вартавых: "зьменшчыкі, не дайшоўшы некалькі дзесяткаў метраў да вартавой вышкі, пачулі стрэлы, пабеглі на іх і ўбачылі..."

Праз два дні бацькі зноў паехалі ў частку. Цяпер ужо ім казалі, што ўсё адбылося не падчас зьмены вартавых, а за 15 хвілінаў да яе — у 14.45. Бацькі перапытвалі: "А можа гэта ўсё ж адбылося пры зьмене вартавых, можа нейкі канфлікт узьнік пры гэтым на вышцы?" Камандзір батальёну Прысмыцкі адказваў: "Вы што мне ня верыце? Я сам выбіваў дзьверы!" У справе ж, па словах бацькі Сяргея Уладзіміра Мікалаевіча, фігуруе іншы час — роўна 15 гадзінаў. Уладзімір Мікалаевіч гаворыць: "Мы сталі высьвятляць, калі паступіў выклік у "хуткую дапамогу". Нам паказалі запіс: "выклік паступіў у 15.06". Атрымліваецца, што 20 хвілінаў сын ляжаў у цяжкім стане на вышцы? Калонія ад бальніцы недалёка. Чаму так доўга не выклікалі "хуткую дапамогу"? Што ж там рабілася?

Высьветліць абставіны і разьвіцьцё падзеяў павінна было сьледзтва. Аднак паставая вышка, на якой адбылося здарэньне, была зьнішчаная на працягу сутак. А можа, і хутчэй, бо маці ўжо ў першы вечар паказалі толькі дзьве дошкі ад той вышкі. Адна дошка са столі з адтулінамі ад кулі, другая — з падваконьня з надпісам: "Кто выжил, тот счастливым будет, кто умер, тот счастливым стал". Сьцьвярджаюць, што гэты надпіс зрабіў Сяргей. Такі ж самы надпіс ёсьць і на вырваным аркушы са сшытку С.Толкача. Але бацькі сьцьвярджаюць, што там зусім ня сынаў почырк... У справе гэты надпіс фігуруе, як перадсьмяротная запіска Сяргея. Аднак жа падобныя надпісы характэрныя для таго асяродзьдзя, дзе Сяргей служыў: гэта тыповы турэмны надпіс...

Бацькі хацелі пабыць на месцы, дзе загінуў іх сын: "Мы прыехалі на другія суткі ў батальён, каб паглядзець паставую вышку, пераканацца, што ўсё было так, як гаворыць камандзір, але вышкі ўжо не было...", — расказвае маці. Прадстаўнікі камандаваньня часткі, патлумачылі, што на вышцы дзейнічалі нейкія "цёмныя" сілы, бо некалькі гадоў назад на гэтай самай вышцы пры падобных абставінах загінуў салдат з Гомелю Андрэй Маскаленка ("Права на волю" паведамляла пра гэты выпадак, і тады сьмерць салдата адбылася таксама пры загадкавых абставінах — *рэд.*). Палкоўнік Аляксандр Фёдаравіч Шалік сказаў бацькам: "Мы запрасілі сьвятара, асьвяцілі вышку, разабралі і спалілі". А з матэрыялаў сьледзтва вынікае, што сьвятара не запрашалі — хацелі запрасіць, але не засьпелі дома. Ад камандаваньня прыйшоў пісьмовы адказ, што "паставая вышка дзейнічала на маральна-псіхалагічны стан ваеннаслужачых, таму яна была дэмантаваная і зьнішчаная". Бацька Сяргея Толкача лічыць, што вышку можна было зьнішчыць толькі пасьля заканчэньня папярэдняга сьледзтва. Гэта было месца, на якім можна было ўзнавіць карціну здарэньня. А цяпер гэтае пасьпешнае зьнішчэньне выглядае як замятаньне сьлядоў...". 7 сакавіка 2000 году сьледчы Баранавіцкай міжгарнізоннай ваеннай пракуратуры С.Новік у сваёй пастанове аб спыненьні крымінальнай справы напісаў: "У 12 гадзін 7 верасьня 1999 г. С.Толкач у чарговы раз заступіў на пост. У 15.00 дакладу па тэлефоне начальніку варты пра вынікі нясеньня службы, пасьля чаго, седзячы на табурэце, узяў аўтамат з піраміды, уставіў ствол аўтамату сабе ў рот і зрабіў шэраг стрэлаў, зрабіў сабе скразное раненьне галавы. З атрыманымі пашкоджаньнямі быў дастаўлены ў Івацэвіцкую раённую бальніцу, дзе 14 верасьня гэтага году, не прыходзячы ў прытомнасьць, памёр ад атрыманых раненьняў".

З паказаньняў сьведкаў: "Камандзір батальёну Прысмыцкі ў ходзе допыту паказаў, што каля 15 гадзінаў 7 верасьня 1999 г., знаходзячыся ў караульным памяшканьні ІТК-5, ад вартавога пульта кіраваньня атрымаў паведамленьне пра тое, што на пасту нумар дзевяць разблакаваная пiраміда з аўтаматамі, і вартавы гэтага паста на сігналы і выклікі не рэагуе. Было прынятае рашэньне хутка рухацца да паста. Па прыбыцьці на пост Прысмыцкі з дапамогай начальніка каравула прапаршчыка Яфімчыка і камандзіра ўзводу аховы ст. прапаршчыка Ахвандзерава, адцягнуўшы дзверы будкі, трапілі ў яе. Радавы Толкач сядзеў на табурэце, на яго твары была кроў. Пры гэтым аўтамат знаходзіўся ў яго паміж ног, ствалом уверх. Акрамя таго, на падлозе валяліся тры стрэляныя гільзы, а на столі бачныя былі тры прабоіны ад куляў. Прысмыцкі хуткім рухам адхіліў руку Толкача, забраў у яго аўтамат і разрадзіў".



Апошні здымак Сяргея ТОЛКАЧА.

Сьледчы робіць выснову, што малады салдат скончыў жыцьцё самагубствам, тым самым "рэалізаваўшы сваю веру ў замагільнае жыцьцё". Бацька загінуўшага не пагаджаецца з высновамі сьледчага, ня бачыць у іх логікі і лічыць, што праўду вайскоўцы хаваюць. Ён мяркуе, што сьледчыя органы ведаюць альбо здагадваюцца аб тым, што адбылося на самой справе. Таму і "не зьвяртаюць увагі" на шэраг нестыковак і недакладнасьцяў.

Варта адзначыць і тое, што перад тым як атрымаць у рукі зброю, Сяргей Толкач быў агледжаны псіхіятрам часткі, які паставіў яму дыягназ – здаровы. Пасьмяротная ж "дадатковая псіхолага-псіхіятрычная экспертыза "паказала", што С.Толкач пры жыцьці выказваў прыкметы часовага разладу псіхічнай дзейнасьці".

Можна доўга разважаць пра тое, што магло адбыцца ў калоніі строгага рэжыму ў Івацэвічах. Але ня будзем браць на сябе функцыі сьледчых органаў — мы ня маем на гэта права. Версія бацькоў такая — сын стаў ахвярай нестатутных адносінаў паміж ваеннаслужачымі.

Гэтая гісторыя пакуль ня мае свайго завяршэньня. Сьледчы С. Новік быў двойчы пакараны ў дысцыплінарным парадку і больш не працуе ў органах вайсковай пракуратуры. Брэсцкі міжгарнізонны ваенны суд, куды зьвярнуліся бацькі, вырашыў "скаргу бацькоў С.Толкача пакінуць без задавальненьня, пастанову аб спыненьні крымінальнай справы ад 7 сакавіка 2000 г., вынесеную старэйшым сьледчым міжгарнізоннай вайсковай пракуратуры пакінуць бяз зьменаў".

Брэсцкі суд прыйшоў да высноваў, што "асобаў, вінаватых у давядзеньні да самагубства няма, а сваё жыцьцё Сяргей Толкач скончыў сам. Застрэліўся з аўтамату".

Бацькі Сяргея Толкача абскардзілі рашэньне Брэсцкага суда, і цяпер справа знаходзіцца на вывучэньні ў Беларускім вайсковым судзе, дзе адбудзецца паседжаньне па гэтай справе.

**Падрыхтавала Паліна СЬЦЕПАНЕНКА.**





© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021



# Сяргей П'яных: Дзень няволі...

## Нататкі відавочцы пра падзеі 25 сакавіка 2000 году ў Мінску

Ранкам 26 сакавіка нам загадалі расьпісацца за атрыманьне харчаваньня ў сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку. Я адмовіўся зрабіць гэта і аб'явіў галадоўку, бо ўсе затрыманыя на самой справе елі ў апошні раз мінімум гадзінаў 20 таму. Праз паўгадзіны нам прынесьлі кашу і гарбату. Мажліва, дзякуючы "Турэмным універсітэтам" Валерыя Шчукіна лыжкі далі з нармальнымі ручкамі, а не з абламанымі. На абед прынесьлі суп з ракушкамі, з выгляду — наварысты, і на другое кашу са шніцэлем. Вочы ўва ўсіх палезьлі на лоб ад зьдзіўленьня: ніхто не чакаў такога харчу тут. Пасьля былі версіі, што гатавалі для нас у сьпецыяльнай сталоўцы. Дарэчы, жонкі прыносілі нам перадачы, але часова затрыманым перадаваць іх не дазволена.

У панядзелак, 27 сакавіка, усе прачнуліся рана, каля сямі гадзінаў, і пачалі з нецярпеньнем чакаць, калі ж нас павязуць на суд. Аднак да палудня нас не кармілі і не трывожылі.

Недзе ў дзьве гадзіны дня нас па адным пачалі выводзіць з камеры і выдаваць канфіскаваныя пры арышце рэчы. Запхнуўшы ў адзін аўтазак каля 20 чалавек, нас павезьлі ў суд Савецкага раёну.

### Суд.

У судзе якраз быў перапынак на абед. Міліцыянты разьвярнулі аўтазак і павезьлі нас назад. Пратрымалі ў камеры яшчэ пару гадзінаў і ў чатыры вечару зноў прывезьлі ў суд. Гадзіну я прасядзеў ў аўтазаку ў чаканьні сваёй чаргі. Недзе ў 17.00 мяне прывялі да судзьдзі Аксаны Рэлява. Пачаўся суд. Пасьля маіх тлумачэньняў сталі выклікаць сьведкаў-міліцыянтаў. Яны гаварылі дужа блытана, казалі, што затрымлівалі мяне каля філармоніі ў 12.20, бо я выкрыкваў антыпрэзідэнцкія лозунгі кшталту "Жыве Беларусь!". Адвакат Сьвятлана Гарбаток заявіла хадайніцтва пра выклік у суд маіх сьведкаў Яўгена Лемеша, Уладзіміра Ільлюкевіча і Рыгора Гітліца. У выніку суд быў перанесены на 30 сакавіка.

29 сакавіка раніцай я накіраваўся ў пракуратуру Савецкага раёну, дзе напісаў заяву пра тое, што мяне пры затрыманьні зьбілі, і ўзяў накіраваньне на зьняцьце пабояў. У судова-медыцынскай экспертызе пабоі зьнялі і вынікі накіравалі ў пракуратуру... Пасьля я паехаў на суд, каб быць сьведкам у Рыгора Гітліца. Ягоную справу адразу спынілі па адсутнасьці складу правапарушэньня.

30 сакавіка ў 10.00 я зноў быў у судзе. Зьявіўся новы сьведка-міліцыянт — старэйшы лейтэнант Сьмірноў, які таксама сьцьвярджаў, што я быў затрыманы каля філармоніі, але ў 13.00. Прагледзеўшы стужку аператыўнага відэазапісу МУС РБ ад 25 .03.2000 з 11.45 да 13.00 судзьдзя А.Рэлява мяне ў раёне ўнiверсаму "Сталічны" і філармоніі не ўбачыла і спыніла справу з-за адсутнасьці складу правапарушэньня.

Праглядваючы відэазапіс, я зрабіў наступныя высновы:

— здымкі "пятачка" каля філармоніі і ўніверсаму "Сталічны" рабіліся як мінімум пяцьцю апаратамі МУС;

— мітынгоўшчыкаў, якім праз мегафоны загадвалі адысьці, на самой справе не было, а былі проста мінакі, назіральнікі, цікаўныя грамадзяне і самі міліцыянты;

— здымкі затрыманьня журналістаў былі выразаныя;

— затрыманых за гэты час на стужцы было каля дзесяці чалавек.

Да таго ж я бачыў, як чатыры чалавекі ў плямістым уніформе і шлемах зьбівалі дубінкамі Юрыя Беленькага, а пяцёра здаравякоў-міліцыянтаў зганялі бабулек, што сядзелі на лаўках.

### Пасьляслоўе.

Такім чынам, 25 сакавіка далёка ад месца мажлівага мітынгу я быў арыштаваны і зьбіты супрацоўнікамі міліцыі — сінякі трымаліся і балелі яшчэ месяц. Маё прозьвішча трапіла ў картатэку КДБ і МУС. Больш за двое сутак я знаходзіўся пад арыштам у сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку. Каля двух тыдняў вымушаны быў прымаць удзел у розных судах — як абвінавачаны і як сьведка. Адказ з пракуратуры Савецкага раёну г.Мінску на сваю скаргу з патрабаваньнем узбудзіць крымінальную справу супраць супрацоўнікаў міліцыі, якія перавысілі свае службовыя паўнамоцтвы я атрымаў толькі 2 траўня. У адказе пракуратуры сказана: "Па Вашай заяве пракуратурай раёну праведзеная праверка. Па выніках праверкі прынятае рашэньне пра адмаўленьне ва ўзбуджэньні крымінальнай справы на падставе арт.5 п.2 КПК РБ (адсутнасьць складу злачынства)". Шчыра прызнацца, іншага адказу я і не чакаў, бо спадзявацца на справядлівасьць у варунках нашае дзяржавы можа толькі чалавек наіўны.

І яшчэ адная важная выснова паводле гэтых падзеяў: не такі страшны чорт, якім яго малююць. Уладам не ўдасца запалохаць арыштамі і судамі людзей, што сталі на шлях супраціву. Адведаўшы на сваіх плячах міліцэйскія дубінкі, пабываўшы на нарах сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку, мы больш не баімся іх. Страшна бывае толькі па першым разе.

*(Заканчэньне. Пачатак у № 10-11)*





Фота "ПнВ"

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.**
**Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**
**Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220013 Менск, а/с 49.**
**E-mail:viasna@spring96.org**
**www.spring96.org**

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Праваабарончага Цэнтру "Вясна"*



© PDF: Kamunikat.org 2021 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021